# Польшча-Беларусь:
## чарговая спроба рэгіянальнага супрацоўніцтва

*Прадстаўнікі больш за 20 фірм з Куяўска-Паморскага ваяводства прынялі ўдзел 12-13 лістапада ў прайшоўшым у беларускім Магілёве Беларуска-Польскім рэгіянальным эканамічным форуме „Гандаль, перапрацоўка, інвестыцыі”.*



**Дзесяць гадоў не надта плённага знаёмства**

„Наша сустрэча мусіць насіць вынікова характар пазнавальнага парадку. Мы хацелі б, каб нашы польскія партнёры, якія ў такой вялікай колькасці прыбылі да нас у Магілёў, азнаёміліся з вытворчым патэнцыялам, месцам, геаграфіяй нашай вобласці і вызначылі б для сябе агульныя пады. Традыцыйна Рэспубліка Польшча з'яўляецца адным з асноўных эканамічных партнёраў Магілёўскай вобласці”, — заявіў журналістам старшыня Магілёўскага абласнога выканаўчага камітэта **Уладзімір Даманеўскі**.

Сувязі паміж Магілёўшчынай і Куяўска-Паморскім ваяводствам былі наладжаны дзесяць гадоў таму. У снежні 2005 года дэлегацыя з гэтага ваяводства ўжо падпісвала з Магілёўскім аблвыканкамам пагадненне аб супрацоўніцтве. Згодна распаўсюджанай магілёўскімі ўладамі інфармацыі, у межах гэтага пагаднення ажыццяўляецца абмен дэлегацыямі рэгіёнаў, творчымі калектывамі, спартовымі камандамі. Праўда, канкрэтных прыкладаў не прыводзіцца, таму напрошваецца выснова, што дзесяцігадовае знаёмства і „абмен дэлегацыямі рэгіёнаў” не далі значнага плёну, калі нават галава магілёўскай выканаўчай улады ўсё яшчэ кажа пра азнаямляльны характар візіту. Галава польскай дэлегацыі ў сваім выступе перад журналістамі потым пацвердзіў такую выснову.

Кіраўніцтва Магілёўскай вобласці таксама заявіла пра зацікаўленасць у развіцці супрацоўніцтва з Куяўска-Паморскім ваяводствам у дрэваапрацоўчай вытворчасці, у перапрацоўцы і захоўванні агародніны і садавіны. „Трэцяе пытанне, якое нас цікавіць, гэта супрацоўніцтва ў сферы развіцця фермерства. У нас сёння працуюць сур'ёзныя фермерскія гаспадаркі. І мы прапануем развядзенне такой жыўнасці, якой раней не займаліся або займаліся ў малых колькасцях — гэта авечкагадоўля, трусагадоўля, вытворчасць мяса індыка”, — адзначыў Даманеўскі.

Таксама важным лічыць кіраўнік абласной улады наладжванне супрацоўніцтва паміж моладзевымі арганізацыямі і навучальнымі ўстановамі. „У частцы супрацоўніцтва моладзевых арганізацый, студэнцкіх калектываў мы маглі б сёння завязваць адносіны і не толькі партнёрска-эканамічныя, камерцыйныя, але і сяброўскія, якія пасля сталі б платформай і асновай для развіцця эканамічных адносін ужо маладога пакалення”, — сказаў старшыня аблвыканкама.

„Нас бы тут не было, калі б не прадпрымальнікі, якія зацікаўлены ўсходнім накірункам. Я маю надзею, што гэта толькі першы крок у нашым супрацоўніцтве паміж Куяўска-Паморскім ваяводствам і Магілёўскай вобласцю. У нас ёсць і праекты, і грошы для інвеставання, і мы будзем развіваць нашы адносіны”, — заявіў намеснік маршалка Куяўска-Паморскага ваяводства **Славамір Копысь**. Па яго сцвярджэнні, цешаць словы Уладзіміра Даманеўскага пра важнасць супрацоўніцтва ў галіне інавацыйных тэхналогій, абмену студэнтамі, развіцці кантактаў моладзевых арганізацый. Думаю, гэта таксама будзе дапамагаць развіццю эканамічнага супрацоўніцтва, — адзначыў Копысь.



Злева Міхал Хабрас, намеснік старшыні камітэта эканомікі Магілёўскага аблвыканкама Віктар Красоўскі, Уладзімір Даманеўскі

У ходзе пленарнага пасяджэння форуму прайшла прэзэнтацыя эканамічнага патэнцыялу абодвух рэгіёнаў. А роўнасці паміж рэгіёнамі няма, аб чым сведчыць нават колькасць насельніцтва. Яго на Магілёўшчыне ў два разы меней за Куяўска-Паморскае — мільён чалавек супраць двух мільёнаў. Да таго ж Магілёўская вобласць сёння самая адсталая правінцыя Беларусі, а Торунь і Быдгашч — гэта Польшча „А”. Ці можа тут узнікнуць рэальны ўзаемны інтарэс, што прынясе карысць абодвум бакам? Пажывем — пабачым гадкоў так дзесяць, але сумнеў вялікі.

У першы дзень форуму польскія госці пазнаёміліся з магчымасцямі свабоднай эканамічнай зоны „Магілёў”, наведалі шэраг магілёўскіх прадпрыемстваў.

**Польшча змяншае з Беларуссю, але павялічвае з Магілёўшчынай**

Доля Польшчы ў знешнегандлёвай дзейнасці Магілёўскай вобласці без уліку краін СНД — дзесяці рэспублік былога Савецкага Саюза, за студзень-верасень 2015 года склала 14,5%. За ўвесь мінулы год гэты паказчык быў на ўзроўні 9,2%, заявіў на пленарным пасяджэнні форуму Уладзімір Даманеўскі.

Паводле яго, і ў мінулым годзе, і сёлета сальда знешнеэканамічнай дзейнасці паміж Магілёўскай вобласцю і Рэспублікай Польшча адмоўнае. „І гэта нас абсалютна не турбуе, таму што мы бачым, што спажыўцы нашай вобласці зацікаўлены ў пастаўках прадукцыі, якая вырабляецца на тэрыторыі Рэспублікі Польшча, і гэта кажа пра тое, што нам ёсць што абмяркоўваць і ў якім кірунку рухацца”, — адзначыў кіраўнік абласной улады, якая прызначаецца беларускім прэзідэнтам.

Паводле прадстаўленых аблвыканкамам дадзеных, знешнегандлёвы абарот Магілёўскай вобласці з Польшчай за дзевяць месяцаў 2015 г. склаў 85,1 млн. долараў, экспарт — 31,3 млн. долараў (109% да студзеня-верасня 2014), імпарт 53,7 млн. долараў (94,4%).

Уладзімір Даманеўскі выказаў надзею, што даны рэгіянальны форум будзе сімвалізаваць павелічэнне тавараабароту паміж Магілёўскай вобласцю і Куяўска-Паморскім ваяводствам Польшчы.

Нягледзячы на рост тавараабароту паміж Магілёўскай вобласцю і Польшчай, у цэлым беларуска-польскі тавараабарот памяншаецца. Пра гэта заявіў журналістам часовы паверан у справах Польшчы ў Рэспубліцы Беларусь **Міхал Хабрас**, не паведаміўшы, аднак, канкрэтных лічбаў. „На жаль, па тавараабароце лічбы трохі памяншаюцца, але я б сказаў, што гэта ў першую чаргу пытанне знешніх фактараў, агульнага эканамічнага стану ў больш шырокім маштабе. І пытанне санкцый”, — адзначыў дыпламат.

Ён выказаў упэўненасць, што цяперашні спад эканамічнага ўзаемадзеяння зменіцца ростам, паколькі прадпрыемствы змогуць хутка адаптавацца да існуючых умоў.

Што тычыцца перспектыў палітычнага супрацоўніцтва Польшчы і Беларусі пасля выбараў, якія прайшлі ў абедзвюх краінах, то Міхал Хабрас адмовіўся адказваць на гэтае пытанне. „Пакінем гэтае пытанне на той момант, калі будзе сфарміраваны новы ўрад Польшчы”, — сказаў ён.

**Вечарам у кіно, раніцай — у школы**

У рамках форуму ў Магілёве прайшлі і Дні польскага кіно. Ад 12 да 15 лістапада ў кінатэатры „Радзіма” былі прадэманстраваны чатыры фільмы рэжысёра Кшыштафа Краўзэ — „Папуша” (2013), „Плошча Збаўцы” (2010), „Мой Нікіфар” (2004) і „Доўг” (1999).

„Кіно — гэта тое, што звязвае. І хацелася б, каб польскага кіно ў Беларусі было больш. У тым ліку сучаснага. Вельмі многія ведаюць фільмы 70-80-х гадоў. Яскравы прыклад таму — „Знахар”. А такіх прыкладаў фільмаў, якія зняты за апошнія гадоў дзесяць, не так ужо шмат. Дзякуючы Польскаму інстытуту ў Мінску ў нас сёння ёсць магчымасць паглядзець карціны выдатнага рэжысёра, якога ўжо няма ў жывых — Кшыштафа Краўзэ. Гэта карціны, якія прымушаюць падумаць пра нешта глыбокае”, — заявіў журналістам у кінатэатры Міхал Хабрас.

Раніцай 13 лістапада госці завіталі ў сярэднюю школу № 2, дзе ў некаторых класах вывучаецца польская мова. Напрыклад, у 9 „в” класе гэтай школы, дзе навучаюцца 15-гадовыя падлеткі, на польскую мову і польскую літаратуру паасобку даецца па адной гадзіне на тыдзень, столькі ж, колькі, таксама паасобку, на беларускую мову і беларускую літаратуру. Пры гэтым польская — замежная, а беларуская — родная. На рускую мову і рускую літаратуру там вызначана па дзве гадзіны. Англійскай мовай гэтыя вучні займаюцца тройчы на тыдзень. Выкладанне, зразумела, вядзецца па-руску, бо беларускіх школ у Магілёве няма. Таму, пры магчымым усталяванні моладзевых кантактаў, да якіх прагнуць улады абодвух рэгіёнаў, польскай моладзі не варта здзіўляцца, чаму іх беларускія равеснікі не размаўляюць па-беларуску.

**Тэкст і фота Уладзіміра ЛАПЦЭВІЧА**

# Сеніёры загулялі ў Ляўкове

Вечарам 15 лістапада гэтага года звонкая музыка плыла са святліцы на вуліцу ў Старым Ляўкове. Сюды прыехалі пенсіянеры з 15 вёсак і прысёлкаў Нараўчанскай гміны. Яны святкавалі Дзень сеніёра.



Мерапрыемства арганізавала Раённае праўленне Польскага саюза пенсіянераў (ПСП) у Нараўцы. Вечарыну вяла старшыня РП ПСП Ядвіга Карпюк. Яна арганізавала конкурсы, між іншым, такія, у якіх трэба было праявіць сваю спрытнасць або заспяваць сваю любімую песню. Самай спрытнай аказалася Іаланта Садоўская. У песенным конкурсе найлепш сябе зарэкамендавалі Юрый Равінскі, Мікалай Варанецкі, Зося Сачко, Валянціна Галабурда, Ядвіга Карпюк і Зіна Пацэвіч. Спявалі яны прыгожыя беларускія, рускія, украінскія і польскія песні. У перапынках паміж танцамі свае кінафільмы прадэманстраваў Юрый Равінскі.



У той вечар у прасторным зале панавала прыемная і сардэчная атмасфера. Іграў аркестр і хто хацеў, той ішоў танцаваць. Усім было весела, спявалі. Хутка прайшоў вечар і прыйшла пара развітацца. Вечарыну яе ўдзельнікі будуць доўга памятаць.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

# Закупка пажарнага аснашчэння

У рамках дамовы паміж Праўленнем Падляшскага ваяводства і Кляшчэлеўскай гмінай ад 6 ліпеня 2015 года пажарнікі гэтай гміны атрымалі датацыю ў памеры 2 500 зл. на закупку аснашчэння і спецвопраткі для пажарных каманд. На гэтую мэту Міністэрства ўнутраных спраў дакінула яшчэ 3 480 зл., а 2 435 зл. выдаткаваў гмінны бюджэт. У агульным падліку на закупку пажарнага аснашчэння прызначана 8 415 зл. У выніку Добраахвотная пажарная каманда ў Дашах атрымала 4 пары спецыяльных ахоўных скураных ботаў *Brandbull 005* і 4 камплекты падшлемнікаў *4/WUS*. Каманда ў Дабрывадзе папоўніла сваю спецтэхніку на брандспойт *FLASH 400* з насадкай *52* (400 л./мін.) і шаравы размеркавальнік *K-75/52-75-52*. Каманда ў Палічнай узбагацілася на чатыры камплекты баявой вопраткі *RIP-STOP* і тры пары абутку *Brandbull 005*. Пажарнай камандзе ў Саках дасталіся брандспойт *FLASH 400* з насадкай *52* і 4 пары ботаў *Brandbull 005*.

**(ус)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Сярод казачных персанажаў

## (экскурсія міхалоўскіх вучняў у Беларусь)

Раніцай 24 кастрычніка 2015 г. група вучняў з нашай школы адправілася ў падарожжа ў Беларусь. На мяжы мы хуценька паказалі пашпарты і пропускі. З мяжы мы адправіліся на аўтобусе. Па дарозе мы захапляліся казачнай, залатой восенню ў Белавежскай пушчы. Нашы першыя крокі ў Рэспубліцы Беларусь вялі ў „кантор”, каб абмяняць валюту. Аказалася, што мы сталі „мільянерамі”, паколькі адзін польскі злоты варты 4500 беларускіх рублёў. Пры поўных кашальках мы адправіліся ў музей прыроды, дзе пабачылі чучалы пушчанскіх жывёл. Гід вельмі цікава расказала нам (на рускай мове) пра музей. Потым мы захапляліся жывымі зубрамі, мядзведзямі, дзікамі, ласямі, лісамі і рыссю.

Найбольш цікавым момантам паездкі было памесце Дзеда Мароза ў Каменюках. Мы апынуліся ў казачным свеце. Усяго сцераглі рыцары Дуб Дубовіч і Вяз Вязавіч. За імі віталі нас Каралеўна і сем гномаў. Постаці былі прадстаўлены драўлянай разьбой. І, нарэшце — ужо сапраўдны Дзед Мароз на прыступках невялікага, драўлянага доміка з прыгожым ганкам і вокнамі, усё аздобленае 40 тысячамі лямпачак. Магічны шлях, на якім поўна казачных персанажаў — гномаў, пеўняў, прынцэс, зачараваных жаб, мядзведзяў — уцягнуў нас у іншы свет. На суседнім узгорку кожны меў магчымасць ездзіць на санках Дзеда Мароза. У канцы шляху 150-гадовыя хвоі, саракаметровыя дрэвы ззялі ад 5000 лямпачак. Каб быць шчаслівымі, мы прайшліся па мосце жаданняў. Гід нам сказаў, што колькі крокаў кожны з нас зробіць на мосце, столькі здзейсніцца мараў... Многія з нас, безумоўна, жадалі застацца ў гэтым казачным свеце. Кожны атрымаў у падарунак пернік у форме каляднай ёлкі і дыплом.

Пасля так цікавых хвілін мы паехалі ў хату Графа Тышкевіча на вячэру. Высветлілася, што тут свята не толькі для цела, але і для душы. Танцам і песням караоке не было канца. На начлег да Войтавага Моста мы даехалі каля дваццатай гадзіны вечара. Мы былі прыемна здзіўлены беларускай гасціннасцю. Аказалася, што мы былі першымі гасцямі ў гэтай гасцініцы, усё ў ёй пахла свежасцю.

Другі дзень пачаўся снеданнем. Апошнім этапам нашай паездкі было наведанне школы на Беларусі. Яна захапіла ўсіх школьным музеем — лясным і фальклорным. Усіх найбольш прыцягвалі дзіцячыя ложкі для дашкольнікаў, як для эльфаў. На жаль, час хуценька бяжыць і нам трэба было вяртацца дамоў. У нядзелю мы перасеклі мяжу Польшчы і вярнуліся ў добрым гумары дамоў.

Мы ўжо чакаем другой паездкі ў Беларусь. За нашае падарожжа дзякуем дырэктару школы і нашаму апекуну ў час паездкі спадару Янку Лукшу (гэта ён з’яўляецца аўтарам экскурсіі) і арганізаткам Эміліі Грыко і Іаанне Верэмяюк. Шчырая падзяка належыцца таксама спадарыні Магдалене Юрчук, якая наведала з намі Беларусь. Разам мы шмат пабачылі і перажылі.

**Клаўдыя СІКОРСКАЯ**
**і Дамініка СІКОРА**
Школа ў Міхалове

# Гарадоцкай «Казцы» - дзесяць!


Фота Дароты СУЛЬЖЫК

У суботу, 21 лістапада, у Гарадоцкім цэнтры культуры святкаваў дзесяцігоддзе дзіцячы гурт «Казка», які вядуць спадарыні Марыя Абрамовіч і Кацярына Кокець.

На юбілей з’явілася многа гасцей. Спявалі дзеткі з сённяшняй «Казкі» і моладзь, якая закончыла ўжо школу і зараз стала студэнтамі. Былі падаркі, словы пажаданняў, торт ды фільм.

Мы таксама далучаемся да пажаданняў і зычым Вам творчых палётаў, радасці ад супольнага спеву і поспехаў на сцэне. Многія леты!

**З-ка**

## ІГРУША

На галінах старой ігрушы
Грае вецер у полі.
Кажуць «дзічка» на яе,
Бо расце на волі.
Цягне каравыя рукі
Да людзей, да неба.
І звяры плады скаштуюць,
Смаку ў іх што трэба.
Паіграла б у садочку,
З сартовымі сёстрамі,
Але лёс такі ў яе –
Жыць на ветры вострым,
Частаваць гасцей пладамі
Салодкімі восенню,
Коранем смактаць ваду,
Напівацца росамі
З неба роднага й зямлі,
З драўлянымі лёсамі.

Міра ЛУКША

# ХОЧАМ ПАШЫРЫЦЬ СВАЕ ВЕДЫ!

Калі ў класе няма сур'ёзных выклікаў, тады няма размовы! Вучняў нішто апрача яды не цікавіць. Яны сядзяць на ўроку быццам за кару і чакаюць званка. Пасля ўрокаў — а як жа — тая самая песня. Нават глядзець у экран нецікава. Што тады рабіць? Як не згубіць сваіх шанцаў і здольнасцей? У адказ можа паслужыць прыклад гімназістаў з бельскай «тройкі». Не ад сёння вядома, што энергію для дзеяння і поспехаў дае нам добрае сяброўства.

Нам хапіла некалькі хвілін, каб зразумець, што першы «б» клас чэрпае сваю сілу, менавіта, з сяброўства. Пра іх настаўнікі кажуць: «спакойны» клас. Гэта вялікі камплімент! Ды значыць нешта такое — яны засяроджаныя, разумеюць пра што іх пытаеш. Разумеюць, якія ў іх выклікі. Навошта яны ім патрэбны! Сучасныя гімназісты добра разумеюць свае недахопы. Асабліва, калі ідзе пра беларускую мову. Для многіх яна важная і родная (нават тады, калі на ёй не гаворацц ужо ў хаце). Моладзь разумее, што не хапае ім ведаў. У гэтай справе шмат дапамагае падрыхтоўка да прадметных конкурсаў. Вось і ў першым «б» класе ажно шэсць асоб рыхтуецца да конкурсу па беларускай мове. Гэта Эмілія Сахарэвіч, Аляксандра Пагажэльская, Віялета Вінская, Наталля Стасюк, Кацярына Лаўрашук, Ксенія Лукашук. Дзяўчаты прыходзяць на дадатковыя пазаўрочныя заняткі.

— Якая ў вас матывацыя? — пытаем.

— Хочам пашырыць свае веды, — кажуць.

Дзяўчаты, хоць ведаюць, што прыйдзецца ім наладзіць між сабой канкурэнцыю, дацэньваюць супольную працу. Яны ведаюць, што сапраўдныя сябры не будуць зайздросціць, а толькі адабраць поспехі іншых, якія патрэбныя ўсім, школе. Сяброўская ангажаванасць перадаецца цэламу класу. Вось у першым «б» класе мы разам прыгадалі асобу Яраслава Касцыцэвіча, патрона школы. Ён не шкадаваў сіл і сродкаў, каб прыцягнуць як найбольшую колькасць навучэнцаў беларускай мовы. Ведаў, наколькі ў развіцці маладога чалавека важная тоеснасць.


Варта дадаць, што ў класе ўмеюць чытаць і многія вучні падпісваюцца на «Ніву». А беларускую мову вядзе тут настаўніца Міраслава Маркевіч.

**ЗОРКА, фота Ганны КАНДРАЦЮК**

## Вершы Віктара Шведа

### Не пакрыўджу тыграў

Тата ў вольныя хвіліны
У заапарк забраў сына.
Упершыню хай яго вочкі
Убачаць розныя звярочкі.

Тата сказаў: — Мілы дзетка,
Не падходзь так блізка клеткі.
Адказаў на гэта Ігар:
— Не пакрыўджу
ў клетцы тыграў.

### Лекар у прадшколлі

— Сёння ў нашым прадшколлі
Лекар быў, кажа Оля.
Запыталася мама:
— Што рабіў лекар з вамі?

— Размаўляў ён з усімі,
Пытаў часам пра імя.
Слухаў, як аддыхаем,
Адказала малая.

## УВАГА КОНКУРС! № 42-15

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 7 снежня 2015 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

### Загадкі з роднай хаткі

* * *

**Барабаніць дзень і ноч,**
**Б'е па плоце, па кустах,**
**Па рабінавых цвятах.**
**А як стоміцца скакаць,**
**У лужыну йдзе паспаць.**
**Д....**

**Яна прыходзіць да нас**
**пад звонкі птушыны спеў,**
**калі гаснуць на небе зоры**
**і трэба збірацца ў школу.**
**Р.....**

**Адказ на загадкі № 42-15: ліска, авечка. Узнагароды, кубачкі для гарбаты з лагатыпам Радыё Рацыя, выйгралі Антаніна Вараньчук і Дам'ян Авярчук з Арэшкава. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 48-15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 44:**

Звон, стапа, яр, клас, свята, Ас, Адам, касы, хор, чарапаха. Ява, скетч, квас, сляды, тата, расамаха, хабанера.

Узнагароды, кубкі для гарбаты з беларускімі ўзорамі, выйгралі **Ізабела Гельман**, **Патрыцыя Сакалоўская** з Міхалова, **Аня Рушук**, **Ружа Марчук** з Новага Корніна, **Марцэль Такаюк**, **Тамаш Галёнка** з КШ н-р 3 у Гайнаўцы, **Кацярына Лаўрашку** з Бельска-Падляшскага, **Сара Скаўронскя** з Беластока, **Рафал Новік** з Нараўкі. Віншуем!

Uszy
Dar
Żona
Jedzenie
Parobek
Jedna rzecz
Ranga
Deszcz
Krowa
Jer
Mąka
Ara
Adam
Sąd
Makaron
Kula
Rak
Komar
Narew
Orsza
Dąb
Ada
Ekonom

# Мультыкультуралізм на гарадоцкай сцэне


Рэнат Хакімаў




Аксана Шчэцкая

**Прадстаўнікі ўкраінцаў, армянаў, казахаў, татараў, палякаў і іранцаў выступілі ў Варшаве, Гарадку і Бельску-Падляшскім падчас канцэртаў «Мультыкультурная Беларусь». Такія гастролі аматарскіх, народных артыстаў сцэны, родам з этнічных меншасцей па некаторых польскіх гарадах сарганізаваў Культурны цэнтры Беларусі пры Пасольстве РБ у польскай сталіцы. Канцэрты суправаджала прэзентацыя беларускіх народных касцюмаў, падрыхтаваных Цэнтрам народных промыслаў і рамёстваў «Скарбніца» з Мінска, адзінай такой буйнамаштабнай мануфактурай і школай традыцыйнага дызайну ў Беларусі.**

«Ніва» прыняла ўдзел у канцэрце ў Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку (15 лістапада), які пачаўся з хвіліны маўчання ў памяць аб ахвярах тэрактаў у Парыжы, якія мелі месца 13 лістапада.

Начальнік аддзела па справах нацыянальнасцей і прававой працы апарату Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Аляксандр Сасновіч, у пачатку 1990-х настаўнік ігры на акардэоне і баяне ў школах у Орлі і ў Гайнаўцы (яго жонка выкладала там ігру на беларускіх цымбалах), які прызнаецца да беларускай нацыянальнасці, пры нагодзе гарадоцкага канцэрту ў размове з «Нівай» сказаў:

— Польшча з'яўляецца ўжо восьмай краінай, якую наведваем з гэтым незвычайным калектывам. Мы былі, сярод іншага, у Аўстрыі, Фінляндыі і Славеніі. Усе выступаючыя групы прадстаўляюць багацце сваёй нацыянальнай культуры і паказваюць усё багацце нацыянальнасцей усёй Беларусі.

Паводле яго слоў, «стабільная сітуацыя этнічных і нацыянальных меншасцей у Беларусі тлумачыцца, галоўным чынам, дасканалай заканадаўчай базай» у гэтай галіне:

— Пры Упаўнаважаным дзейнічае кансультацыйная этнічная рада, якая ўключае ў сябе кіраўнікоў нацыянальных аб'яднанняў, афіцыйна зарэгістраваных на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь Міністэрствам юстыцыі. Маем закон аб нацыянальных меншасцях, які быў прыняты ў 1992 годзе з пазнейшымі дапаўненнямі. Няма ў ім так, як у Законе аб нацыянальных і этнічных меншасцях у Польшчы запісу, што меншасць гэта тая, што жыве ў краіне, па меншай меры сто гадоў. На самой справе, мы не выкарыстоўваем у афіцыйнай мове тэрміна «меншасць». Мы кажам пра «нацыянальныя суполкі». Мы не хочам, каб быў падзел на нейкую вялікую нацыю і іншыя нейкія меншыя. У Беларусі налічваецца больш за 140 нацыянальнасцей. Ёсць нават такія, якія прадстаўлены ў асобе аднаго чалавека. Паводле апошняга перапісу насельніцтва ў 2009 годзе найбольш шматлікай нацыянальнасцю пасля беларусаў па парадку з'яўляюцца расіяне, якіх налічваецца каля 800 тысяч, украінцы і палякі ў колькасці больш чым 270 тысяч. Найменшыя нацыянальнасці налічваюць прыкладна 10 тысяч і менш людзей.

Ён паказаў, спасылаючыся на свае назіранні за ўмовамі, у якіх жывуць беларусы ў Польшчы:

— Калі я падарожнічаю па розных краінах, прыходжу да высновы, што беларусам у Польшчы не жывецца горш, чым у іншых месцах. Але ў мяне няма арыентацыі адносна таго як жывецца беларусам у Польшчы ў параўнанні з палякамі. Беларусы ў Польшчы нарадзіліся і тут іх зямля, незалежна ад таго, якія былі гістарычныя лёсы гэтай зямлі. Іх продкі жылі тут, і гэта адрозніівае іх ад большасці беларусаў у іншых краінах. Ёсць спробы параўнаць, як жывецца палякам у Беларусі і беларусам у Польшчы. Мне здаецца, што гэта не вельмі карэктна. Але фактычна ў нас ёсць школы з польскай мовай навучання: у Гродне і ў Ваўкавыску, дзе прадметы выкладаюцца на польскай мове, а ў Польшчы такіх няма.

Спасылаючыся пры нагодзе на тэрарыстычныя акты ў сталіцы Францыі, сказаў:

— Тое, што адбылося ў Парыжы, для ўсіх членаў нашага калектыву, гэтых розных нацыянальнасцей, сярод якіх ёсць таксама мусульмане, было шокам. Мы даведаліся пра гэта, будучы ўжо ў Польшчы. І гэтымі нашымі выступленнямі яшчэ больш важным ёсць паказаць, як жывуць гэтыя шматлікія нацыянальнасці ў Беларусі разам, што можна, незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання, жыць у згодзе і міры. Перш за ўсё павінна быць жаданне з абодвух бакоў: тых, хто з'яўляецца гаспадаром краіны і мігрантаў, каб жыць з імі ў міры.

Канцэрт складаўся з песень і танцаў меншасцей, але ў яго пачатку і ў канцы праспявалі песні на беларускай мове, а артысты прадставілі сябе не толькі ў сваіх нацыянальных касцюмах, але і ў беларускіх, вырабленых у навукова-вытворчым рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве беларускіх народных рамёстваў, што працуе ў Мінску ад сарака гадоў. Аляксандр Сасновіч:

— «Скарбніца» з'яўляецца ўнікальным праектам у Беларусі, які ў асноўным займаецца вырабам нацыянальных беларускіх касцюмаў. Шые іх для нашых самых важных калектываў, такіх як «Харошкі», Дзяржаўны ансамбль танца, «Песняры». Таксама заўсёды гатова шыць касцюмы для калектываў іншых чым беларуская нацыянальнасцей.

Прадстаўляючая кіраўніцтва «Скарбніцы» Ірына Сініца, якой маці беларуска родам са Слуцкага раёна, а бацька — народжаны ў Мінску татарын, расказала «Ніве» з-за прылаўка з вырабамі гэтай кампаніі, што стаяў у фае ГЦК:

— «Скарбніца» за сорак гадоў свайго існавання ў асноўным займаецца традыцыйным ручным ткацтвам, галоўным чынам вопраткі, але і саломапляценнем, роспісам тканіны, драўніны і шкла. Мы ездзім на навукова-даследчыя экспедыцыі па тэрыторыі Беларусі, а затым на аснове вопыту, назапашанага там, рэканструюем касцюмы з розных рэгіёнаў, у тым ліку тых, з якіх каманды пасля выступаюць на сцэне або паказваюцца як частка нашай этнакалекцыі. У «Скарбніцы» працуе мае каля шасцідзесяці чалавек. У нас ёсць спецыяльны ўчастак ткацтва, дзе працуюць на сапраўдных кроснах, ці ўчастак вышыўкі, як ручной, так і з дапамогай машыны. Мы такая адзіная фірма ў Мінску. Падобныя ёсць у Баранавічах, Гомелі і Мазыры, але мы адзіная ў Беларусі, якая працуе на аснове даследаванняў і аналізу. Такім чынам мы вывучаем, рэканструюем і распаўсюджваем традыцыйную беларускую народную культуру.

Рэнат Хакімаў, прадстаўнік татарскай меншасці, з'явіўся на сцэне ў адзіночку. Ён выканаў татарскую песню «Я вернусь» з фрагментамі ў рускім перакладзе. Шкадаваў, што не на польскай мове. У размове з «Нівай» сказаў:

— Татарам у Беларусі жывецца вельмі спакойна. Калі можна адчуць нейкую варожасць, дык толькі тады, калі гэта звязана з тым, што адбываецца ў цяперашні час у свеце ў сувязі з асацыяцыяй, на жаль, з усімі мусульманамі і з гэтымі злымі падзеямі, якія адбываюцца. Па ўсёй Еўропе ў цяперашні час можна адчуваць асцярожнасць у дачыненні да нас, мусульман. Тым не менш, нас не прыніжаюць у Беларусі, няма там нейкіх ганенняў на нас.

Польская меншасць была прадстаўлена ансамблем «Івеньчанка», які працуе ў Польскім доме ў Івянцы. Яе спявачка Аксана Шчэцкая запэўнівала нас:

— У Беларусі ёсць шмат польскіх народных калектываў і маюцца яны вельмі добра. У рэпертуары ў нас ёсць, перш за ўсё, песні народныя і патрыятычныя, але і з поп-музыкі. Беларуская дзяржава фінансуе нам касцюмы, інструменты, забяспечвае памяшканні для рэпетыцый, і агулам усе віды дзейнасці.

Алія Гуцава, чый бацька з'яўляецца казахам, а маці беларускай, прадстаўніца казахскай арганізацыі «Атамікен» (у перакладзе «Родны край»), салістка групы «Салтанат», яшчэ перад выступам на гарадоцкай сцэне згадвала нашай газеце:

— Арганізацыя нашай нацыянальнасці займаецца мастацкай дзейнасцю. Мы не толькі выступаем на сцэне, але і шырэй прадстаўляем нашу культуру, напрыклад шляхам арганізацыі выстаў і ўдзелу ў шматлікіх конкурсах і фестывалях. Стараемся расказваць, дзе можам, пра культуру Казахстана, якая вельмі слаба вядомая ў Беларусі. У Гарадку я выступаю першы раз і хацела б перадаць як мага больш увесь наш вельмі насычаны каларыт нашай культуры праз мастацтва жэсту і руху, і прыгажосць нашай мовы, якую асабліва можна пачуць у песнях. Я сама выхоўвалася на стыку дзвюх нацыянальнасцей і рэлігій, дзвюх ментальнасцей. Мабыць, менавіта таму ў мяне ёсць асаблівая павага да культуры кожнага народа, што таксама адчуваю ў Беларусі.

Яна таксама спаслалася на падзеі ў Парыжы:

— Намі, казахамі, усё тое, што адбылося ў Парыжы, і ў цэлым адбываецца ў Еўропе і ў свеце, асабліва прыкра ўспрымаецца. Мы гэта вельмі перажываем. Гэта цяжка зразумець. Уся наша група, якая выступае тут, у Гарадку, тое што адбылося ў Парыжы прыняла з вялікім хваляваннем, але і з недаверам. Можа, такія канцэрты, як гэты наш, праз спазнанне іншых культур, так ці інакш дапаможа злучыць людзей, каб жылі яны ў міры. Выратуе нас толькі дабрыня.

26-гадовая Алена Пак з танцавальнай групы, якая прадстаўляе традыцыйную карэйскую культуру «Арыранг»:

— Не толькі танцуем, але і іграем на сцэне на бубнах. Акрамя таго, мы паказваем сваю культуру праз карэйскія касцюмы з багатым арнаментам. Нас, карэйцаў, шмат ва ўсёй постсавецкай прасторы, у тым ліку ў Беларусі, не толькі ў Мінску. Я сама нарадзілася ў Мінску. Мой бацька прыехаў сюды, калі яму было шаснаццаць гадоў. Ён вучыўся тут. Маму сустрэў у Казахстане, дзе карэйцаў шмат.

Публіка, якая да краёў запоўніла глядзельную залу ГЦК, таксама захаплялася танцамі армянскай групы «Эрэбуні» і песнямі гурта ўкраінскай меншасці «Краяны». Дырэктар ГЦК у Гарадку Юры Астапчук:

— Такія канцэрты, у час якіх прадстаўлена культура многіх народаў, вельмі патрэбныя. Вельмі вялікая цікавасць да іх, як з намі тут, у Гарадку, даказвае, што мы з'яўляемся талерантным грамадствам, і любіць кожную культуру ў свеце, і што мы цікавімся іншымі культурамі. Усё, што новае — цікавае.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

# Бежанства ў беларускім космасе (1)

## У днях 12-13 лістапада ў беластоцкім Цэнтры праваслаўнай культуры прайшла навуковая канферэнцыя пад лозунгам „Бежанства 1915 года ў гісторыі і традыцыі беларусаў Падляшша”, ладжаная Беларускім гістарычным таварыствам. У канферэнцыі прынялі ўдзел даследчыкі мінуўшчыны з Расіі, Латвіі, Беларусі і Польшчы

**Войцех Сляшынскі**, дэкан Гістарычна-сацыялагічнага аддзялення Беластоцкага ўніверсітэта, адкрываючы канферэнцыю, спрабаваў задумацца, ці не пара ўжо спрабаваць вызначыць месцы супольнай памяці. Магчыма, што ў ходзе роздумаў атрымаюцца нейкія разыходжанні, але ж яны ўсё-такі набліжаць узаемныя навуковыя пункты гледжання. Трэба прызнацца, што тэма бежанства з'яўляецца адной з найменш у нас вывучаных. Я займаюся, — гаварыў выступоўца, — галоўным чынам, даследаваннем міжваеннага дваццацігоддзя і бачу, што бежанства пакінула вельмі глыбокі след у свядомасці праваслаўнага грамадства, у яго бачанні Другой Рэчы Паспалітай. Гэтае грамадства, вырванае са свайго каранішча, вяртаецца на цаліну, дзе ўсё трэба пачынаць з нуля. І тая Другая Рэч Паспалітая цягам некалькіх наступных гадоў не можа станоўча асацыявацца. Як царская Расія асацыюецца з дастатнім домам, а тут трэба пачынаць з зямлянкі. І так сапраўды, нам тут, у Беластоку, трэба пакаяцца, што мы так позна сталі займацца гэтай тэмай. Бо ні ў міжваенны перыяд, ні пасля 1945 года, па палітычных прычынах, ніхто не займаўся вывучэннем тых асоб, якія былі ў бежанстве, а гэта тая крыніца, якая ўжо прамінула.


Войцех Сляшынскі і Алег Латышонак

**Алег Латышонак**, старшыня БГТ:
— Важнае, каб бежанства даследаваць, каб пашыраць пра яго веды ў грамадстве. Гэта істотнае беларусам, асабліва ж беларусам Падляшша, бо яно нас найбольш закранула, гэта тэма вельмі важная. Мне калісь здавалася, што бежанства было такой вялікай падзеяй, пра якую памяць не прападзе, але цягам гадоў назіраю, як гэтая памяць згасае. Нам трэба прыкласці намаганні, каб тую памяць захаваць. На жаль, у Беларусі не відаць ніякага зруху ў тым напрамку, каб гэтая тэма стала нацыянальнай справай, а гэта ж, на справе, тысячы паловы насельніцтва Беларусі. У Беларусі гэтая тэма была і не была; часам выпадкова згадвалася ў працах прысвечаных іншым падзеям. На жаль, не відаць там адзначання сотых угодкаў тае падзеі, хаця яна мела для Беларусі аграмаднае значэнне. Мы тут, як можам, стараемся. Асабліва хачу адзначыць ініцыятыву Яўгена Чыквіна, які памяць пра гэтую падзею прывёў у польскі парламент, дзякуючы выстаўцы пра бежанства. Цяпер гэтую выстаўку можна будзе глядзець у нашым універсітэце.

**Рыгор Лазько** з Гомеля зачытаў даклад пра Усерасійскі з'езд бежанцаў з Беларусі ўлетку 1918 года. Бежанства было тым завяршальным фактарам, які сфармаваў беларускі менталітэт, якога рысы праяўляюцца і сёння, м.інш. у палітычных паводзінах, у тым ліку і на апошніх выбарах. Гэтае стаўленне відавочнае і выражаецца ў даўно вынашанай светапогляднай ісціне, якую можна выразіць у словах: бульба ёсць, дах не цячэ, абы вайны не было. Апошнім фактарам, які сфармуляваў светапоглядную ідэю нашага народа, была якраз Першая сусветная вайна, у тым ліку і бежанства. Дакладчык нагадаў пра адносіны паміж Беларускім нацыянальным камісарыятам — аддзелам бальшавіцкага наркама па справах нацыянальнасцей — і ўдзельнікамі ўсерасійскага бежанскага з'езда ў 1918 годзе. Гэты з'езд не быў першым, але першым у рамках савецкай улады. Тут маем суб'ект у выглядзе Белнацкама і аб'ект у выглядзе бежанцаў, якія ў ліпені 1918 года з'явіліся на гэты з'езд. БНК на той момант знаходзіўся ў вельмі складанай сітуацыі. Ён тады стараўся павысіць свой сціплы статус з культурнай установы да палітычнага цэнтра будучай беларускай савецкай дзяржаўнасці. Дзеля гэтага ён з вясны 1918 года выкарыстоўваў фактар утварэння БНР. У першай справаздачы ў наркамат нацыянальнасцей ад 19 красавіка 1918 года, імкнучыся звярнуць на сябе ўвагу як на барацьбіта з БНР, кіраўнікі БНК асмеліліся выказаць свой погляд на пазіцыю вышэйшай інстанцыі, на задачы, якія трэба было рэалізаваць у нацыянальнай палітыцы, у палітыцы адносна Беларусі. Тут быў завуаліраваны і папрок за падпісанне савецкім урадам брэсцкага пагаднення, і падказка ахоўваць кожную нацыянальнасць ад замаху з любога боку, і патрабаванне матэрыяльнай і духовай падтрымкі бежанцам з заходніх рэгіёнаў Расіі. Выкананне гэтых задач кіраўнікі БНК бачылі неабходнай умовай вяртання ў Расію страчаных тэрыторый. Рэакцыя бальшавіцкага наркамата на гэтую дзёрзкасць і палітычную наіўнасць была амаль імгненнай і суровай: 28 красавіка 1918 года кіраўнікі БНК былі выкліканы на пасяджэнне калегіі наркамата. У выніку ініцыятары гэтага нізавога погляду былі паступова адхілены ад бальшавіцкіх уладных структур, а самому БНК былі пастаўлены чыста палітычныя задачы, зводзячы падтрымку бежанцам прапагандаваннем сярод іх бальшавіцкіх ідэй адмыслова падрыхтаванымі агітатарамі. А наконт згаданага ўсерасійскага з'езда бежанцаў з ліпеня 1918 года: сітуацыя склалася так, што дэлегаты з усёй Расіі патрабавалі нейкага арганізуючага іх цэнтра, які б прадстаўляў іх інтарэсы перад савецкімі ўладамі. Дзеячы БНК прынялі ўдзел у падрыхтоўцы з'езда. З'езд пачаўся ў Маскве 17 ліпеня, прыехала каля шасціста дэлегатаў. У парадак дня былі пастаўлены не толькі бытавыя справы бежанцаў, але і тэзісы палітычнага характару; апошняй справе супраціўлялася частка дэлегатаў, якая не жадала ўваходзіць у палітыку, толькі заняцца самой дапамогай бежанцам і арганізацыяй іх рээвакуацыі. Усё ж такі прадстаўнікі БНК дамагліся разгляду з'ездам справы будучыні Беларусі. Пазіцыя большасці дэлегатаў з'езда была тыповай для беларусаў: дуля ў кішэні. Усе дэлегаты аднадушна падкрэслівалі страшэннае становішча бежанцаў, што стаўленне да іх з боку мясцовага насельніцтва і мясцовай савецкай улады варожае, што на бежанцаў глядзяць як на тых, хто адбірае мясцовым працу, хто адбірае ім кавалак хлеба. Амаль усе выступоўцы крытыкавалі мясцовыя савецкія ўлады, адначасна звяртаючыся ў бок цэнтра за дапамогай. У заключнай рэзалюцыі дэлегаты з'езда патрабавалі ад савецкага ўрада, каб той патрабаваў ад германскіх улад пряняць назад бежанцаў з усім іх інвентаром, дазволіць ствараць на месцах саветы, якія б арганізавалі жыццё бежанцаў, адвесці на будучай мірнай канферэнцыі месца прадстаўнікам беларускага народа ды ўстанаўлення аўтаноміі Беларусі ў рамках будучай федэратыўнай дзяржавы.


Рыгор Лазько

**Эрыкс Екабсонс** з Рыгі гаварыў пра перамяшчэнне бежанцаў у пачатку Першай сусветнай вайны па тэрыторыі Латвіі. Прамоўца зазначыў, што латвійскія гісторыкі даследуюць гістарычныя працэсы, якія адбываліся ў межах сённяшняй Латвіі, тадышняй Ліфляндскай губерні, але трэба ўлічваць, што падобныя падзеі адбываліся таксама ў Літве, Эстоніі і на тэрыторыі Беларусі. У 1915 годзе вайна завітала на тэрыторыю Латвіі і там лінія фронту запынілася на тры гады, дзелячы краіну на дзве часці. Там сітуацыя склалася інакш чым у Літве, якая была поўнасцю занята немцамі, і ў Эстоніі, да якой фронт не дайшоў зусім., але была падобная да сітуацыі Беларусі. З заходняй часткі Латвіі, з Курляндыі, у бежанства ў Расію падалося каля васьмісот тысяч людзей, г.зн. звыш паловы латышоў, якіх тады было паўтара мільёна — больш чым сёння. А вярнулася іх на радзіму каля дзвюх трацін, ну, не больш чым трох чвэрцяў. У ліку бежанцаў было недзе пад дзвесце тысяч іншапляменнікаў, якія ўжо да вайны складалі значны адсотак насельніцтва Латвіі. У ліку бежанцаў было шмат людзей, якія працавалі ў заводах, якія былі эвакуіраваны ў глыб Расіі. У Курляндыі асталося каля дзвюхсот тысяч насельніцтва. Варта тут адзначыць, што вялікі адсотак насельніцтва Курляндыі, асабліва верхніх слаёў грамадства, складалі балцкія немцы. І пад нямецкай акупацыяй былі спробы германізацыі Курляндыі. У нас, прадаўжаў дакладчык, склалася такая сітуацыя, што ў школах навучаецца больш пра адлеглыя краіны, а пра суседзяў ведаем шмат менш, чым пра вялікія замежныя дзяржавы. І здараецца, што спараджае гэта даволі кур'ёзныя падзеі, калі мы, суседзі, мала пра сябе ведаем. Напрыклад, некалькі гадоў таму на месцы бітвы пад Кірхгольмам з 1605 года палякі паставілі помнік пра падзею; нядаўна падобны помнік сталі стаўляць літоўцы... Латышскія гісторыкі даследуюць бежанства з Латвіі, сваё бежанства, якое пачалося ў 1915 годзе, але менш увагі звяртаюць на тое бежанства, якое праходзіла па тэрыторыі Латвіі ўжо з 1914 года з тэрыторыі Літвы і, магчыма, з Беласточчыны таксама. Бежанцы перамяшчаліся цераз Рыгу і Дзвінск; іх лік у некаторых мясцовасцях у некалькі разоў перавышаў лік мясцовага насельніцтва.


Эрыкс Екабсонс

**Станіслаў Чэрэп** з Беластока расказаў пра бежанства з Каралеўства Польскага і Беласточчыны ў напрамку Петраграда. Даследчык адзначыў, што ў нас амаль няма архіўных матэрыялаў пра гэтую падзею, затое мноства тых архіваліяў, і то каштоўных, у маскоўскіх і пецярбургскіх фондах. У 1916 годзе ў Петраградзе было каля ста тысяч бежанцаў: спачатку найбольш было латышоў, палякі былі другой па колькасці нацыянальнай групай і складалі каля чвэрці ад усяго ліку ўцекачоў. Само бежанства пачалося яшчэ ўлетку 1914 года, толькі не ў так масавым маштабе, як годам пазней. У 1914 годзе эвакуіраваліся чыноўнікі з сем'ямі, адукаваныя рабочыя заводаў, чыгуначнікі ды таксама цывільнае насельніцтва. Бежанства закранула розныя нацыянальныя групы, напрыклад, у лістападзе 1914 года з Гродзіска-Мазавецкага і Скернявіцаў былі выселены яўрэі, але недалёка, толькі ў Варшаву; пасля некалькіх дзён варшаўскі губернатар дазволіў ім вярнуцца. З жніўня выйшаў загад камандуючага Паўднёва-Заходнім фронтам, генерала Мікалая Іванова, пра высяленне ў глыб Расіі мужчын у прызыўным узросце з 17 да 45 гадоў разам з сем'ямі. Затым быў загад начальніка штаба расійскай арміі генерала Мікалая Януш-


Станіслаў Чэрэп

працяг ☞ 11



# Беларускія смакі Падляшша

**Ад пачатку года знялі цыкл з дваццаці фільмаў, дзе героямі з'яўляюцца людзі з нашага рэгіёна. Вучылі як падрыхтаваць дамашнія стравы, характэрныя для беларускай кухні. Гэта не толькі дранікі, бульбяная кішка ці славуты гайнаўскі марцінак, але шмат іншых, якія штодзень паяўляюцца на нашых сталах. Праект «Беларускія смакі Падляшша» даказаў, што беларуская кухня — адна з самых разнастайных на кантыненце. Яна падобная да рускай, літоўскай, украінскай, польскай, яўрэйскай, але пасвойму ўнікальная, надзвычай сытая і смачная.**

— Мы ўжо раней рабілі такі сайт **www.kuchnia.cerkiew.pl**. Там знаходзяцца рэцэпты падляшскіх страў, толькі яны выходзілі на польскай мове, — кажа каардынатарка праекта Анна Мароз. — Мы атрымалі шмат паведамленняў, каб рабіць гэта па-свойму, па-беларуску. Думалі ці людзі будуць гэтае аглядаць, ці будуць хацелі выступаць, але аказалася, што яны самі давалі заяўкі, каб прымаць удзел у нашай праграме.

Як падкрэсліваюць ініцыятары «Беларускіх смакаў Падляшша», гэта не толькі цыкл фільмаў пра кулінарную спадчыну нашага рэгіёна, але штосьці значна важнейшае. Паказваючы дадзеныя стравы, гледачы маглі адначасна пазнаёміцца з цікавымі людзьмі, пазнаць іхнія страсці ды прыслухацца розным дыялектам беларускай мовы.

— Гэта не толькі праект, які гаворыць пра падляшскія смакі, але таксама праект, які тычыцца культуры. Культуры яды і культуры ў шырэйшым значэнні, — кажа старшыня таварыства «orthnet» Аляксандр Васылюк. — Таму, што ў некаторых фільмах выступаюць людзі, якія ў нейкай ступені паказваюць свае зацікаўленні. Гэта паэты, мастакі ці скульптары. Пры нагодзе здымання фільмаў мы хацелі паказаць, якія цікавыя людзі жывуць у нашым рэгіёне, і як цікавыя рэчы яны ствараюць.

Поспех цыкла фільмаў «Беларускія смакі Падляшша», якія былі высветлены нават больш за 75 тысяч разоў, гэта таксама заслуга адной з вядучых— Барбары Галёнка. Сваёй харызмай ды сапраўдным веданнем тэмы падляшскай кухні стала адной з зорак праграмы. Яе жывое зацікаўленне кулінарнай спадчынай Падляшша прыцягнула шырокую аўдыторыю.

— Праект мне вельмі спадабаўся. Бабуля не пакінула мне кулінарных рэцэптаў. Таму мяне цікавіла як спячы хлеб ды як рыхтаваць іншыя стравы, — кажа вядучая праграмы «Беларускія смакі Падляшша» Барбара Галёнка. — Для мяне кулінарная спадчына была вельмі цікавай, можна сказаць, што стала маёй страсцю. Гэта традыцыя маіх бабуль. Мы павінны аб гэтым памятаць.

На падвядзенні праекта, які прайшоў у Супрасльскай акадэміі 20 лістапада, не магло не хапаць самых герояў паасобных серый цыкла. З'явіліся таксама ўлады гмін, у якіх здымалі фільмы пра характэрную беларускаму насельніцтву яду.

— Мне вельмі прыемна, што якраз мая гміна, — сказала Раіса Раецкая з Бельска-Падляшскага, — магла прымаць удзел у адной серыі. „Згодныя макі" з Райска гэта гонар гміны. Думаю, што гурт даказаў таксама, што ўмее так добра варыць, як і спяваць.

«Згодныя макі» выступілі ў Супрасльскай акадэміі з канцэртам. Сваімі песнямі закранулі яны трагічны лёс вёсачкі перыяду Другой сусветнай вайны, але таксама развесялілі народнымі песенькамі. «Згодныя макі» з'яўляюцца адным з герояў цыкла фільмаў пра «Беларускія смакі Падляшша». Тая серыя была прысвечана страве з бульбы, якую ў народзе называюць «другім хлебам». Яна з'яўляецца абавязковым атрыбутам беларускага нацыянальнага стала. З яе гатуюць бульбянікі, дранікі, камы, запяканкі, клёцкі, бульбяную бабку. Гэтым разам гледачы маглі ад гурта з Райска навучыцца рабіць адмысловыя аладкі, званыя картафлянікамі.

Пасля эмісіі праграмы «Беларускія смакі Падляшша» на сайце **www.cerkiew.pl** з'явілася шмат каментарыяў ды карэспандэнцыі людзей з розных куткоў свету. Людзі жыва рэагавалі на паасобныя серыі фільмаў, якія краналі сваёй прастатой і свойскасцю.

— Найбольшай вартасцю «Беларускіх смакаў Падляшша" з'яўляецца тое, што праграма рэалізавана была на беларускай мове. Паказвае не толькі кухню нашага рэгіёна, але і беларускую спадчыну. Жывем на тэрыторыі, дзе сутыкаецца пяць культур і вельмі важнае тое, каб якраз паказваць сваю, каб паказаць, што яна існуе і будзе існаваць. У канцы мы суправаджалі кожную серыю ўсёй сям'ёй. Гэта праграма вартасная, асабліва калі чалавек знаходзіцца так далёка ад родных старонак, — піша глядачка з Чыкага.

Усе фільмы можам паглядзець на старонцы **www.cerkiew.pl**. Гэтыя адрэзкі сведчаць не толькі пра багацце кулінарнай спадчыны, але таксама духоўнае багацце нашых людзей. Пра тое, што не забываем сваёй мовы. Мерапрыемства падвядзення праекта «Беларускія смакі Падляшша» закончылася вячэрай, на якой можна было паспрабаваць страў прэзентаваных на фільмах.

Усе фанаты праграмы могуць ужо чакаць далейшага. Як запэўнівае каардынатарка праекта Анна Мароз, папулярная праграма «Беларускія смакі Падляшша» будзе мела свой працяг.

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**



# http://shukaj.by

Інтэрнэт з рознымі магчымасцямі прынёс, зразумела, і новыя забавы. Цяпер ужо мала каго можна здзівіць разнастайнымі камп'ютарнымі стралялкамі, шматлікімі гульнямі з пераходам з узроўню на ўзровень альбо World of Tanks. Узнікаюць гульні, якім патрэбны не толькі экран манітора з яго віртуальнай рэчаіснасцю, але і звычайная рэальнасць. Адным з прыкладаў гэтага з'яўляюцца так званыя прыгодніцкія гульні „квэсты". Паколькі яны адносна нядаўна ўвайшлі ў жыццё, то тлумачэння, што такое „квэст" немагчыма знайсці нават у беларускай Вікіпедыі.

„Квэст (англ. quest) альбо прыгодніцкая гульня — адзін з асноўных жанраў камп'ютарных гульняў, які ўяўляе інтэрактыўную гісторыю з галоўным героем, кіруемым гульцом. Найважнейшымі элементамі гульні ў жанры квэсту ёсць уласна расповед і даследаванне свету, а ключавую ролю ў працэсе гульні граюць развязванні галаваломак і задач, якія патрабуюць ад гульца разумовых намаганняў. Такія характэрныя для іншых жанраў камп'ютарных гульняў элементы як баі, эканамічнае планаванне і задачы, што патрабуюць ад гульца хуткасці рэакцыі і хуткіх дзеянняў у адказ, у квэстах зведзены да мінімуму ці ўвогуле адсутнічаюць. Гульні, якія аб'ядноўваюць у сабе прыкметы квэстаў і жанру *action*, выдзяляюць у асобны жанр — *action-adventure*", — распавядаецца ў Вольнай энцыклапедыі на іншых мовах.

Паколькі для беларусаў даныя квэсты з'ява даволі новая, то нельга абысці ўвагай хіба не адзіны сайт з квэстамі па-беларуску. Месціцца ён у інтэрнэце па адрасе **http://shukaj.by** і з'яўляецца камерцыйным праектам. „Shukaj.by — хто мы? Малады і амбітны беларускі праект турыстычных анлайн квэстаў для актыўнага і інтэлектуальнага адпачынку", — распавядаюць уладальнікі сайта на старонцы „Што такое квэст?".

Тэмы прыгодніцкіх гульняў, якія прапануюцца на сайце, датычныя ў асноўным турыстычных вандровак па Мінску. „Квэст — гэта ўнікальная і захапляльная магчымасць адкрыць для сябе горад! Ланцужок цікавых загадак і адметных славутасцей правядуць вас праз гісторыю, падрыхтаваную для вас аўтарамі. Даведайцеся пра горад гуляючы!" — заклікаюць патэнцыяльных кліентаў распрацоўшчыкі гульняў.

Тыя, хто ўсё ж такі вырашыць пагуляць у квэст на найбольш цікавую для сябе тэму, мусяць заплаціць. Да гонару камерсантаў, не ўсе гульні, якія яны прапануюць, платныя. Але і ў тым, і ў другім выпадку трэба разам са сваім дэвайсам накіравацца да ўказанага на сайце месца старту. „Націскайце кнопку «Панеслася» — і вы атрымаеце першае заданне. Ад гэтага моманту вы ў гульні. Рашайце загадкі, уводзьце слушныя адказы ў адпаведнае поле, пераходзьце на наступны ўзровень. У любы момант, калі ў вас з'явіліся складанасці з заданнем, вы можаце скарыстацца падказкай. Ваша мэта — паспяхова выканаць усе заданні!" — кажуць камерсанты.

Варта адзначыць, што на даны момант на сайце прапануецца не надта многа квэстаў. Бясплатна можна пагуляць толькі ў Мінскім метрапалітэне і ў Літаратурным музеі Петруся Броўкі. Астатнія гульні, датычныя гісторыі БНР, рамантычных месцаў Мінска, атракцыёнаў беларускай сталіцы каштуюць каля васьмі еўра.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Класік на ўсю беларускую гісторыю



# 85 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча

Класік беларускай літаратуры, першы беларускі пісьменнік, які звярнуўся да жанру гістарычнага дэтэктыву, Уладзімір Караткевіч нарадзіўся 26 лістапада 1930 г. у Оршы. Продкі Караткевіча былі са шляхты і паходзілі з беларускага Падняпроўя, з Рагачова, Мсціслава, Магілёва і іншых гарадоў. Адзін са сваякоў пісьменніка па матчынай лініі, паводле сямейнай легенды — Тамаш Грыневіч браў удзел у паўстанні 1863 г. Паўстанцы пад яго камандаваннем былі разбіты, а яго самога расстралялі ў Рагачове. Гэтую гісторыю Караткевіч апісаў у пралогу рамана «Нельга забыць». Бацька — Сямён Караткевіч — працаваў у казначэйстве, служыў у царскай арміі пісарам, пасля працаваў інспектарам па бюджэце ў Аршанскім раённым фінансавым аддзеле. Маці — Надзея з роду Грынкевічаў — некаторы час працавала настаўніцай у сельскай школе пад Рагачовам, пасля выхаду замуж занялася хатняй гаспадаркай. Маці добра ведала сусветную літаратуру. У сям'і было трое дзяцей. Уладзімір навучыўся чытаць вельмі рана, у тры з паловай года. У дзяцінстве не толькі любіў слухаць казкі і розныя гісторыі, якія яму чыталі старэйшыя, але імкнуўся дадумваць развіццё сюжэтаў. З самага ранняга дзяцінства цікавіўся гісторыяй, асабліва гісторыяй Беларусі. У 1938 г. пайшоў у школу у Оршы. Да пачатку вайны паспеў скончыць 3 класы. Вайна застала ў Маскве, куды пасля заканчэння школы паехаў да сястры. Трапіў у эвакуацыю ў Разанскую вобласць, потым на Урал у Пермскую вобласць. Рабіў спробы ўцячы на фронт. Праз пэўны час высветлілася, што бацькі змаглі эвакуявацца і жылі ў горадзе Чкалаве (Арэнбургу). Туды ж дабралася і сястра. Толькі ў жніўні 1943 г. яна змагла прывезці Валодзю да бацькоў у Арэнбург, дзе ён скончыў 6 класаў. У кастрычніку 1941 г. на фронце загінуў старэйшы брат Валерый. Летам 1944 г. разам з маці на некаторы час пераехаў у вызвалены Кіеў, дзе жылі сваякі. Восенню сям'я вярнулася ў Оршу.

У пасляваенныя гады Караткевіч, аршанскі школьнік, змясціў на старонках рукапіснага часопіса «Званочак» некалькі сваіх вершаў, а таксама першую сваю прыгодніцкую аповесць «Загадка Неферціці». У 1949 г. закончыў школу і паступіў на рускае аддзяленне філфака Кіеўскага ўніверсітэта імя Шаўчэнкі, які скончыў у 1954 г. Пасля працаваў настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў школе вёскі Лесаўшчына Кіеўскай вобласці. У 1956-1958 гг. працаваў настаўнікам у Оршы. Пазней вучыўся на Вышэйшых літаратурных, сцэнарных курсах у Інстытуце кінематаграфіі ў Маскве і стаў прафесійным пісьменнікам. У другой палове 1970 г. Караткевіч пачаў працаваць на Беларускім тэлебачанні, дзе вёў праграму «Спадчына», прысвечаную гісторыі і культуры беларускай зямлі.

Найбольш вядомыя творы Караткевіча — аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха», «Сівая легенда», раманы «Каласы пад сярпом тваім», «Хрыстос прызямліўся ў Гародні», «Чорны замак Альшанскі», эсэ «Зямля пад белымі крыламі», легенда «Ладдзя роспачы».

Апошнія дні лютага 1983 г. былі вельмі трагічнымі для пісьменніка — у адзін дзень памерлі яго жонка і родная цётка па матчынай лініі. Паводле слоў пісьменніка, ён у тыя дні «адчуваў сябе на мяжы нервовага надлому». У шлюбе з жонкай ён пражыў 12 гадоў, але дзяцей у іх не было. Памёр Уладзімір Караткевіч 25 ліпеня 1984 г. у Мінску, пахаваны на Усходніх могілках.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Мой погляд

У сучаснай рэчаіснасці не ўяўляю жыцця без доступу да інтэрнэту. Гэта акно ў свет. Асабліва ў маім выпадку, калі намагаюся працягваць супрацоўніцтва з «Нівай» як шматгадовы карэспандэнт. Для мяне зараз інтэрнэт гэта неабмежаваная крыніца ведаў і магчымасць наладжвання сяброўскіх кантактаў праз пасрэдніцтва скайпа (натабена, атрыманага ў падарунку ад «Нівы»), і фейсбука. Праз пасрэдніцтва інтэрнэту рэалізую дамашнія рахункі. Дзякуючы дабрадзейнасці новых тэхналогій маю магчымасць пасылаць электроннай поштай тэксты і фотаздымкі ў рэдакцыю, таксама весці неабмежаваную карэспандэнцыю з цэлым светам. А самае асноўнае для інтэрнаўта гэта свабодны доступ да інфармацыі, таксама магчымасць выказвання сваіх поглядаў і думак на фейсбуку.




Аб пачатках праўлення пераможнай групоўкі старшыні ПіС Яраслава Качынскага, у тым ліку прэзідэнта РП Анджэя Дуды лепш не гаварыць. Аж бурліць у сродках масавай інфармацыі: адмова навелізацыі закону аб нацыянальных і этнічных меншасцях, спрэчкі з прэзідэнтам за трох суддзяў Канстытуцыйнага трыбунала , выбраных парламентам мінулага склікання, памілаванне Марыюша Камінскага, затым адмена закону аб Канстытуцыйным трыбунале выклікае закалот у грамадстве, а перш за ўсё ў коле вядомых юрыстаў. Найбольш супярэчлівыя дзве апошнія справы: памілаванне каардынатара па справах спецслужбаў і адмена закону аб Канстытуцыйным трыбунале. Адмоўна рашэнні прэзідэнта ацэньваюць такія аўтарытэты як выконваючы абавязкі старшыні КТ Анджэй Жэплінскі, былы старшыня КТ Анджэй Цоль і суддзя ў Трыбунале справядлівасці еўрапейскай супольнасці ў Люксембургу Марэк Саф'ян. Думка згаданых юрыстаў адназначная — прэзідэнт парушыў канстытуцыйны лад і парадак, таму што прэзідэнт з'яўляецца адно выканаўчым органам, а заканадаўчым у гэтай справе з'яўляецца парламент і незалежны суд. Такім чынам, па думцы юрыстаў, прэзідэнт увайшоў у кампетэнцыю незалежнага суда (у справе М. Камінскага), затым не выканаў рашэння парламента ў справе назначэння ў КТ трох суддзяў. Але прэзідэнту, як і ўпраўляючай партыі пэўна ўсё вада на млын, бо ўлада... гэта яны!

— Такое было маё рашэнне (у справе Марыюша Камінскага — У. С.), — так канстатаваў прэзідэнт Анджэй Дуда ў час сустрэчы з журналістамі перад інагурацыйным пасяджэннем парламента VIII склікання, — і за гэта нясу асабіста адказнасць.

Пытаю затым: перад кім нясе адказнасць? Перад лідарам ПіС?

Некалькі дзён таму на адным з парталаў прачытаў я, што «калі злачынца паходзіць з верхняга эшалону ўлады і ведае каго трэба, можа спаць спакойна». Аўтарка прыпомніла яшчэ, што «ў нармальнай краіне ўсе людзі роўныя перад законам, а за яго парушэнне нясуць адказнасць — незалежна ад таго ці будзе гэта чорнарабочы, ці міністр».На маю думку, нічога тут прыбавіць, нічога адкінуць... Сумнае, але праўдзівае.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Канферэнцыя пра «Бежанства 1915 года»

9 ☞ працяг

кевіча пра эвакуацыю ўсяго насельніцтва разам з рухомай маёмасцю. Гэтыя рашэнні былі прыняты быццам на аснове чутак, што праціўнік будзе прызываць мужчын з занятых тэрыторый у сваю армію. З тэрыторыі Каралеўства было вывезена 71 прамысловае прадпрыемства. Пераважна эвакуіравалі тыя заводы, якіх выторчасць магла мець мілітарнае прымяненне. Ну і расійская армія прымяняла кутузаўскую тактыку спаленай зямлі — каб нічога не пакінуць праціўніку. У Петраградзе найбольш бежанцаў было з Варшаўскай губерні — 5,6 тысяч, з іншых губерняў было значна менш, але ўсё ж такі шмат, напрыклад, з Калішскай звыш 400 тысяч, з Плоцкай каля 240 тысяч.

**Уладзімір Ляхоўскі** з Мінска расказаў пра новыя архіўныя дакументы з жыццяпісамі ўдзельнікаў беларускага нацыянальнага руху, якія выводзіліся з Беласточчыны. Першая сусветная вайна стала моцным каталізатарам этнапалітычных і этнакультурных працэсаў у нашай частцы Еўропы. Да вайны выходзілі беларускія газеты, але яны не стваралі такой грамадскай актыўнасці, якая выбухла ў ходзе сусветнай вайны. Галоўным ферментам гэтых працэсаў было бежанства і войска. Змітрок Бядуля заўважыў: „Беларускі адраджэнскі рух не здолеў зрабіць таго, што зрабіла імперыялістычная вайна на працягу двух гадоў. Найлепшым агітатарам у справе абуджэння ад сну беларускіх сялянскіх мас было само жыццё, ненармальнае, выбіўшае іх з адвечнай каляі ў часе вайсковых падзей на Беларусі. Тут было


■ Уладзімір Ляхоўскі

тады праўдзівае перасяленне народаў: тысячныя грамады ўцекачоў з беларускіх вёсак у глыб Расіі, наплыў к нам розных народнасцей у вайсковых атрадах на фронце, у вайскова-гаспадарчых арганізацыях па нашых гарадах і вёсках. І гэты бурны час быў найлепшай жывой агітацыйнай кнігай для беларускіх сялянскіх мас". Гэта значна паскорыла працэс нацыянальнай кансалідацыі беларусаў, да якога далучылася шмат ураджэнцаў нашых Бельскага, Беластоцкага і Сакольскага паветаў. Тут немцы стварылі моўны калідор, арганізуючы беларускае школьніцтва, каб нейтралізаваць польскія ўплывы ў заходняй частцы Беларусі. Далей дакладчык засяродзіўся на дэталях біяграфій некаторых з іх. Мне падаецца, што на гэтыя біяграфіі мелі ўплыў і згаданыя дакладчыкам рэлігійныя абставіны, калі не стала вартавых дасюлешняга парадку. З Віленскай епархіі з'ехала больш за шэсцьсот святароў і на ўсёй яе тэрыторыі асталося толькі шасцярых праваслаўных святароў. Сямейныя падзеі — народзіны, шлюбы і паховіны — не былі ацаркоўліваны. Не было праваслаўнага духавенства і здараліся такія выпадкі, калі нямецкі капелан апранаў царкоўнае аблачэнне і так адпраўляў запатрабаваныя абрады; такія хрэсьбіны здарыліся ў Беластоку, дзе ў 1916 годзе астаўся каля тысячы праваслаўных вернікаў.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

## 29.11 — 05.12

**(22.03. — 20.04.)** Будзе ў цябе мноства планаў: адправіцца ў падарожжа, атрымаць павышэнне па службе, здзейсніць нейкую дарагую куплю. Найбольш спрыяльны перыяд для ажыццяўлення жаданняў — першы тыдзень снежня. Перспектыўна ў плане замежнага супрацоўніцтва. Зоркі раяць заключаць здзелкі і падпісваць важныя кантракты, інакш будзеш вымушаны доўга займацца бюракратычнымі затрымкамі.

**(21.04. — 21.05.)** Снежань абяцае стаць пасапраўднаму чароўным. З'явіцца шанц на ўласным вопыце пераканацца, што мары спраўджваюцца, калі гэтага вельмі захацець. Галоўнае, не выпусціць сваю фартуну. Але нягледзячы на ўсе свае магчымасці, снежань будзе вельмі напружаным, паколькі часта прыйдзецца браць усю адказнасць на сябе.

**(22.05. — 22.06.)** Снежань стане месяцам эмацыйнай і псіхалагічнай нестабільнасці. Будзеш жыць як на вулкане. Захоўвай спакой і не мітусіся дарма, так будзе лягчэй справіцца з навалай праблем. Самы складаны перыяд наступіць у апошнюю дэкаду года; старайся быць максімальна пільным і акуратным.

**(23.06. — 23.07.)** Не варта забываць, што, увязваючыся ў рызыкоўную авантуру, сам нясеш адказнасць за прынятае рашэнне і далейшыя наступствы. Таму вінаваціць кагосьці іншага ў выпадку няўдачы не варта. Зараз проста атрымлівай асалоду ад бягучых момантаў і не псуй сабе настрою беспадстаўнымі здагадкамі і падазрэннямі. Разлічваць на выйгрыш няма сэнсу, асабліва з больш дасведчанымі прэтэндэнтамі. Атрымаць нейкую ўзнагароду можаш толькі за сваю якасную, карпатлівую працу.

**(24.07. — 23.08.)** Снежань будзе дваістым месяцам. Перыяды павышанай актыўнасці будуць змяняцца перыядамі спаду і тармажэння. Паклапаціся аб тым, каб выглядаць бездакорна і ў любой справе захоўваць аптымізм і творчы пачатак. Некаторыя цяжкасці могуць паўстаць у партнёрскіх узаемаадносінах. Людзі могуць перад табой утаіць нейкую інфармацыю. Ідзі на кампраміс. Дзякуючы добрай інтуіцыі зробіш таемнае відавочным.

**(24.08. — 23.09.)** Уладкуеш свой побыт. Добрая база будзе гарантыяй сацыяльнага поспеху. Пазбаўся ад непатрэбных рэчаў, заадно ў думках раскладзі па палічках і свае планы. Не ўвязвайся ва ўсякія рызыкоўныя авантуры і не ідзі насуперак лёсу. У прыкрых сітуацыях паспрабуй не губляць стрыманасці і пачуцця гумару. А ў канцы снежня прыйдзецца вырашаць усе незавершаныя справы.

**(24.09. — 23.10.)** Пачні з творчай адзіноты і самапазнання. Акалічнасці не вельмі спрыяюць праявам актыўнасці. Паспрабуй ацаніць, што табе ўжо атрымалася дасягнуць у асабасным плане, і што яшчэ хацелася б зрабіць. Калі ты зарэкамендаваў сябе як адказны работнік, у поўнай меры зможаш зараз скарыстацца пладамі сваіх стаpанняў і сур'ёзна наблізіцца да ўвасаблення ў жыццё сваіх мэт.

**(24.10. — 22.11.)** Дамагчыся поспеху дапамогуць уплывовыя знаёмыя. На працы праяві сябе з лепшага боку, маеш шанц атрымаць больш перспектыўную пасаду. Больш рэалістычна глядзі на жыццё і не марнуй свайго часу на бессэнсоўныя размовы і дурныя летуценні. Абапірайся на парады дасведчаных людзей і на свой жыццёвы вопыт. Кантралюй эмоцыі і выказванні. Да сярэдзіны снежня здолееш мабілізавацца і вырашыць за кароткі час адразу некалькі важных праблем.

**(23.11. — 22.12.)** Варта завяршыць тыя справы, якія ты адкладаў у доўгую скрыню. Удзельнічаць у працы над калектыўнымі праектамі цяпер табе не рэкамендуецца. Варта таксама пазбягаць кантактаў з высокапастаўленымі асобамі. Лепш займіся рашэннем бытавых пытанняў. Зоркі не раяць зараз удзельнічаць у рызыкоўных мерапрыемствах. Трэба крыху адпачыць, каб набрацца сіл.

**(23.12. — 20.01.)** Нічога асаблівага. Навядзі парадак у сваіх планах і падвядзі некаторыя вынікі. Зносіны з навакольнымі лепш скараціць, каб не марнаваць энергіі. Паспрабуй не пераўтамляцца і аддавай сабе больш часу. Бліжэй да канца снежня аптымізм і мэтанакіраванасць зноў вернуцца. Новыя знаёмствы ўнясуць разнастайнасць у жыццё.

**(21.01. — 19.02.)** Вельмі пазітыўны час. У жыцці ўварвецца вецер перамен. Чакаюць прыемныя навіны, новыя планы і знаёмствы. Гуртуй вакол сябе надзейных аднадумцаў. Можаш без боязі брацца нават за самыя адказныя справы. Поспех будзе на тваім баку.

**(20.02. — 21.03.)** Цяпер важна ўтрымаць сваё месца пад сонцам, захаваць тое, што табе атрымалася дамагчыся на дадзены момант. Паспрабуй прывесці свае жаданні ў адпаведнасць з магчымасцямі. Калі табе гэта ўдасца, справы пойдуць як па масле. У перыяд зацьмення Месяца не плануй важных спраў. А канец снежня можа стаць для Рыб цалкам чароўным: прыемныя сюрпрызы, здольныя многае перавярнуць у тваім жыцці.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

1. невялікі ўзгорак у... грудзях, 2. тоўстая моцная вяроўка, 3. горад на Нарве між Нарвай і Тыкоцінам, 4. літаратурнае прозвішча Аляксандра Баршчэўскага, 5. без яго дыму не бывае, 6. абласны расійскі горад на рэчцы Суры, 7. агонь бачны над вогнішчам, 8. дыверсійны рух вайсковага падраздзялення ў тыл ворага, 9. шахматны пехацінец.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | 2 | | | | |
| | | 3 | | | | | 4 | |
| | | | | 5 | | | 6 | |
| | 7 | | | | | | | |
| | | | | 8 | | 9 | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 45 нумара**

Багдад, буран, быт, мера, нерат, табу.
Рашэнне: **Багаты брат беднаму брату не рад.**

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мартыне Лукшы** з Нараўкі і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” - kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” - kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (23)

Надзея Яўсовіч ужо выглядала мяне перад сваёй белай хаткай, у глыбі поля. Я пакінула машыну ля крыжа, прыаздобленага каляровымі стужкамі і ручніком. Далей трэба было ісці пяшком. Раней тут быў канец сяла, які ў Перабродах завуць Адрынкі.

— Вы сабе *поспілкуйтэся*, а я загляну да маці, — сказаў Юры.

У перакладзе гэта значыла, каб мы сабе спакойна паразмаўлялі. На Палессі ўсё здавалася больш запаволеным і аддаленым. Нават дарога, якая вяла да хаткі спявачкі, падоўжылася ў два-тры разы. Магчыма, так спрацавала ўзрушанасць, якая ахінула мяне ад галавы да ног. Надзея Яўсовіч явілася мне самым дасканалым увасабленнем палескай песні, насычанай магіяй, болем, сэрцам і сілай. Паўпустынны краявід, які распасціраўся наўкруг хаткі, толькі ўзбуйняў гэтае пачуццё. Я ішла сярод пясчаных узгоркаў, зрэдку аброслых бярэзінай, і паўтарала як мантру словы перабродскіх жанчын, якія гаварылі, што песня складаецца з гора... Пясчаныя, маласпрыяльныя для гаспадаркі дзюны падказвалі, што гора тут заўсёды было пад дастаткам, ды нават намнога больш, чым трэба для паўнакроўнай песні.

* * *

Спачатку мы прыселі на лавачцы ля хаты, каб пагаварыць пра жыццё і надвор’е. З перспектывы Перабродаў вайна здавалася адлеглай і нерэальнай. Нават той факт, калі ўдвая панізілі пенсію, які бударажыў гарадскіх пенсіянераў, тут здаваўся быць на другім плане. Галоўнае, каб вайны не было. На лавачцы пад белай хаткай, за якой пачыналася *Рудніцке* балота, я забылася, што знаходжуся ва Украіне.

— У нас ціхенька, спакойна, — пачала спявачка, — няма ніякай пагрозы. Людзі сваёй работай заняты. Хто ў полі, хто ў лесе працуе.

Ёй самой, 74-гадовай пенсіянерцы прыходзіцца гадаваць свіней, курэй ды хадзіць у лес за грыбамі, ягадамі і журавінамі. Бо як без работы сядзець! Чалавек столькі варты, колькі другому здолее штось даць, дапамагчы. У спадарыні Надзеі ёсць каму дапамагаць. У сяле жыве сын з сямейкай, у іх двое дзетак. Наймалодшая ўнучка ў садзік пайшла. Ёсць свае дочкі і іншыя ўнукі...

Ад пачутага ў мяне з’явілася адчуванне, што замінаю ў штодзённай рабоце. Надзея Яўсовіч, якая пры больш спрыяльных умовах магла б стаць палескай Сезарыяй Эворай, не была зацікаўлена медыйнай славай. Нават не пераапранулася на нашу сустрэчу ў святочны строй. Таксама не цікавілі яе ўжо паездкі і выступленні.

— Нядаўна, *адзін* прыязджаў і запрашаў ехаць спяваць у Маскву. Але я не схацела. Чаму? Бо няма ўжо з кім мне спяваць. Тыя людзі, з якімі я любіла спяваць, паўміралі. Ды і самой хочацца ўжо да іх. Пасля таго як я вярнулася са шпіталя, жыццё яшчэ больш стала абыякавым. Пагоршыўся зрок, ціск падняўся. Усё баліць. Вось лягу спаць і пра нішто ўжо не думаю, — прызнаецца спадарыня Надзея. — А калісь, бывала, ляжаш і думаеш куды запросяць на выступленні. Як будзе ў далёкай краіне? Як успрымуць нашы песні чужыя людзі?

Расказ раптоўна абрываецца. Спадарыня Надзея глядзіць на мяне з недаверам і зноў пытае :

— Вы сапраўды з Польшчы да мяне ехалі?

* * *

— У маёй сям’і ўсе няблага спявалі, — кажа Надзея Яўсовіч. — Да вайны бацька быў свяшчэннікам, служыў у царкве. Маці таксама спявала.

Пасля, за савецкіх гадоў, бацька стаў настаўнікам. Вёў маладзёвы хор у святліцы. Памятае як разам ездзілі выступаць у Дубровіцу, у суседнія сёлы. Але гэта не тое... Песні, якія прыйшлі пасля вайны, не надта ёй падабаліся:

— Яны не кранalі за сэрца, — кажа, — нават калі там былі шчымлівыя словы. Усё такое тралі-валі.


Са спевачкай ля яе бела-блакітнай хаткі


Надзея Яўсовіч у сваёй хатцы



Больш захаплялі яе *галасы* роднай цёткі. Яна была тая, якая *запявала*. Значыць, пачынала і вяла да апошняй звароткі песню верхнім голасам. Іншыя спевакі падключаліся па дарозе, быццам прытокі да ракі. Разам стваралі гармонію, ад якой дрыжалі ўсе крывінкі ў целе і мацней білася сэрца. Песня адрывала ад зямлі, неслася па-над галовамі, быццам не належала да людзей, толькі да іншага вымярэння.

— Я *тыя галасы* цёткі ўсе ведала, — кажа.

* * *

Надзея Яўсовіч спачатку імкнулася пераняць словы, мелодыя сама застрагала ў целе. Бывала, не магла заснуць, пакуль не вывучыць песні да канца на памяць. Ведала, што нельга перайначыць хоць бы адно слова. Тады песня губляе свой геаметрычны ўзор, штосьць унутры разрываецца. Падобнае захапленне песняй меў яе дваюрадны брат, якога клікалі *Бондарко*. Будучы малымі дзецьмі, разам сядалі ля стога сена і спявалі на галасы. Іх творчы дуэт перарываў цэлае жыццё.

— Хоць у маім жыцці не заўсёды да песні было, — кажа жанчына.

* * *

Нарадзілася напярэдадні Айчыннай вайны, у 1941 годзе. Гэта быў самы кашмарны час у жыцці сяла. Разам з уваходам нямецкай арміі ўсіх жыхароў рашылі перасяліць, каб не дапамагалі партызанам. Людзей з Перабродаў накіравалі дарогай на Столін, магчыма там хацелі іх пасяліць на часовае жыхарства. Аднак у палове дарогі, у лесе, іх запынілі «людзі з лесу» ды загадалі ўцякаць. Хто яны? — Надзея Яўсовіч не ведае. Можа партызаны, можа іншыя. Гаварылі, што іх вядуць на расстрэл да Століна. Тыя, што ўспелі, разбегліся па лесе, ацалелі, перажылі. Сярод іх, на руках у бацькоў, была маленькая Надзея. Да канца вайны шмат народу жыло ў зямлянках, пяць-сем кіламетраў ад сяла.

— Адна наша цётка пе паспела сабрацца, як усе, у дарогу. Яе з сям’ёй схапілі немцы, запынілі ў стадоле і ўсіх спалілі. Разам з мужам і чацвёркай дзяцей. Калі загарэлася, бацькі накрылі сваімі целамі дзяцей. Маці ўзяла пад сябе дзве дзяўчынкі, бацька двух хлопцаў. Пасля, калі іх хавалі, людзі знайшлі ў двух месяцах па чатыры ручаняткі. Такая ў нас была вайна.

Пра трагічныя падзеі ведае ад бацькоў і людзей. Яна сама ў той час была немаўляткам на руках. Бацькі шчасліва перажылі...

Пасля вайны, некалькі гадоў запар, панавала засуха. Пясчаная зямелька давала мізэрны плён. Іх усіх загналі ў калгас, забралі вазы і валоў.

За працадзень плацілі 800 грам жыта. За гэта трэба было пракарміць сям’ю:

— Людзі галадалі дзесьці да 1955 года. Ужо тады нас «перавялі» на Украіну. І кожны, хто мог, з’язджаў на Кіравааградчыну, Мікалаеўшчыну. Там была яда, шанц выжыць.

* * *

Надзея Яўсовіч, маці пяцярых дзяцей, пайшла на пенсію ў пяцьдзясят гадоў. Пяць гадоў да таго памёр яе муж. Гарэлка з’ела. Яна працавала ў калгасе. Жыхары Перабродаў апрацоўвалі лён, які прывозілі ім з раёна, з Дубровіцы.

На гліняны пячы, дзе гатавалася страва для сям’і і корм жывёліне, трэба яшчэ было сушыць калгасны лён. Пасля яго высцілалі на панадворку, трапалі ў трапаках. Праўда, цяжкая праца не была тут навіной. Найгорш, што не было прыбытку і дзеці параз’язджаліся па свеце. Адзін сын не вярнуўся з войска, Па сённяшні дзень ніхто з сям’і не ведае пра акалічнасці смерці. Служыў у спецслужбах дзесьці пад Масквой... Столькі ўсяго накапілася на адну галаву!

Апошні ўспамін замкнуў размову.

Дзесьці паміж сказаным былі *тыя ўсе палескія галасы*, якія ўмела выспяваць у Перабродах адна цудоўная Надзея Яўсовіч.

— Гэта была мая адзіная радасць у жыцці, — кажа спявачка. — Тады ўсе сумныя справы дзесьці адплывалі.

Жыццё вярталася на кругі свае.

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960